


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 5 (284) САКАВІК 2020 ГОДА


**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***А там, за светам, на чужыне ніхто цябе, ой, не прыхіне!***

*Якуб Колас*

НАША ЖЫЦЦЁ

# К БЕЛАРУСИ УСПЕЛА ПРИКИПЕТЬ ДУШОЙ

**Мы побывали в Городокском районе в гостях у сельчанки с самым редким в Беларуси именем — Снегуоле. Новое занятие Снегуоле Морозовой из Городокского района помогает справляться с семейными трудностями. Лет 30 назад Снегуоле МОРОЗОВА переехала в Городокский район из Литвы и пустила корни. Вспоминает ли родной Рокишкис — прибалтийский городок, где все дышит историей? Несомненно. Хотела бы туда вернуться? Ей и здесь хорошо, ведь к Беларуси успела прикипеть душой.**

**Из Литвы в Беларусь**

«Химия» случилась с первых дней на новом месте, вспоминает Снегуоле Феликсовна:

— Теперь Беларусь — моя любовь. Красивые места, открытые добрые люди, на которых везло, — все это про Городокщину. Не без оснований считаю ее второй родиной. В 1990-х в Малашенки перебрались мои родители, а следом за ними я, 23-летняя барышня с дипломом кладовщика-электромонтера на руках. К слову, по специальности не работала ни дня, но и без дела никогда не сидела. Пошла по следам родителей — в сельское хозяйство. Мать трудилась в колхозе имени Свердлова дояркой, отец был животноводом — профессии непростые, в советские времена хорошо оплачиваемые. Самой мне пришлось быть и бригадиром животноводства, и начальником мехотряда, и — так обстоятельства сложились — почтальоном.

У ее имени есть своя история. Мама планировала, что на свет появится Сильва, а отец, пойдя регистрировать дочку, открыл справочник и «попал» в самое нетривиальное имя на букву «С».

— Так я и осталась Снегуоле, — замечает собеседница. — Сколько всего связано с моим именем, не передать. В школе мальчишки пели вслед зимнюю песенку из «Ну, погоди!». Со своим бойким, нордическим характером в долгу не оставалась.

В Беларуси уроженку Литвы многие знают как Снайге. Легкое, воздушное прозвище когда-то придумал свекор:

— При знакомстве долго объясняла ему, что за имя такое — Снегуоле. Он задумался, а потом перевел взгляд на фирменный, стоявший в кухне холодильник «Снайге» и спросил, где такие производят. Услышав, что в Литве, сказал, что и меня теперь будет звать так же — для ясности. Как на лбу написал, хотя мне нравится.

**«Идейные» сельчане**

В Стодолище, где сегодня живет с семьей Снегуоле Морозова, с трудоустройством не так-то просто. Как вариант — добираться на работу в Городок общественным транспортом. Но если утром расписание подходящее, то в обратный путь автобус собирается ближе к шестнадцати часам. Чтобы найти гибкий график и понимающего нанимателя, придется постараться. Конечно, можно переехать ближе к центру или вовсе оставить сельские реалии. Но у Снегуоле и ее близких другая позиция. Они «идейные» сельчане, которым находиться на периферии в радость, даже несмотря на сложности. А их везде хватает. Еще три года назад у нас было по-другому, откровенничает собеседница:— Быт, хозяйство — все как часы. Вместе с мужем Анатолием мы справлялись с немаленьким даже по сельским меркам хозяйством. Свиньи, коровы, овцы, кролики, козы — кого только не было на подворье. Добавьте к этому обработку 3,5 гектара земли, большой сад и поймете, что все перевернулось с ног на голову, когда у супруга случился инсульт.

В памяти сельчанки отчего-то осталось, как в тот сложный год они решились на эксперимент — из малой семечки вырастили арбузы. Полосатые красавцы удались, вызрели, но так и остались лежать в бахче... Сегодня глава семьи чувствует себя лучше, старается держаться молодцом, но силы все же не те. От прежних разворотов мало что осталось. Из живности — курынесушки и мясные бройлеры, от огородного царства — стандартный набор грядок с картошкой, огурцами да помидорами. Зимой без запасов не

***(працяг на стар. 2)***

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

СУСЕДЗІ

# РАСІЯ ЗАКРЫВАЕ МЯЖУ З БЕЛАРУССЮ

**Гэта нечаканы ўдар у спіну па грамадзянах Гарадоччыны, якія вахтава працуюць у Расіі.**

Паводле слоў расійскага прэм'ер-міністра Міхаіла Мішусціна, Масква працягне прымаць меры, каб не дапусціць распаўсюджвання каронавіруса. Аляксандар Лукашэнка пракамэнтаваў разьвіцьцё сытуацыі з каранавірусам падчас прыначэння кіраўнікоў мясцовых органаў улады: «Расея ўся палае ад каранавірусу».

Расійскія ўлады вырашылі закрыць мяжу з Беларуссю для перамяшчэння людзей. Пра гэта на аператыўнай нарадзе заявіў прэм'ер-міністр Расіі Міхаіл Мішусцін, паведамляе ТАСС.

«Мы таксама прынялі рашэнне аб закрыцці мяжы з Беларуссю для перамяшчэння людзей, зрабілі шэраг іншых папераджальных крокаў, — сказаў ён. — Мы і далей будзем рабіць усё для абароны нашай краіны ад гэтай новай пагрозы, дзейнічаць на апярэджанне, прымаць вычарпальныя меры, каб не дапусціць, у першую чаргу, масавага распаўсюджвання каронавіруса».

Як адзначыў Міхаіл Мішусцін, у Расію вірус занеслі асобы, якія прыехалі з іншых краін, дзе інфекцыя раней ужо распаўсюдзілася. «Рост колькасці хворых у Расіі, які мы назіраем у апошнія дні, адбываецца ўжо за кошт іх сваякоў ці тых, з кім яны кантактавалі. У многіх краінах сітуацыя развіваецца па неспрыяльным сцэнарыі», — сказаў Мішусцін. Паводле яго слоў, узніклі істотныя рызыкі для жыцця і здароўя людзей, нармальнай працы бізнесу.

Ён нагадаў, што Расія абмежавала авіязносіны з краінамі Еўрасаюза, прыпынены ўезд замежнікаў праз мяжу з Польшчай, Нарвегіяй, адменена чыгуначныя зносіны з Латвіяй, Малдовай, Украінай.

«Усе цяперашнія абмежаванні намі сведама робяцца для таго, каб пазбегнуць больш жорсткіх мер у будучыні», — растлумачыў ён.

**Паводле tass.ru**

***Ад рэдакцыі сайта:*** *у каментарах расійскіх рэсурсаў не тлумачыцца як будуць абыходзіцца з грамадзянамі Беларусі, якія вахтава працуюць у памежных абласцях Расіі: Пскоўскай, Смаленскай і Бранскай. Хутчэй за ўсё – назад у Расію вяртання ў каранцін не будзе.*

*'А з 30 сакавіка спынены рух праз аўтамабільныя, чыгуначныя, пешаходныя, рачныя і змешаныя пункты пропуску празь дзяржаўную мяжу Расеі. Але ж Беларусcю мяжы няма.*

КУЛЬТУРА

# «БЕЛАРУСЬ 3» ПАЗНАЁМІЦЬ ГЛЕДАЧОЎ З ГАРАДОЦКАЙ ТРАДЫЦЫЯЙ

**Тэлеканал «Беларусь 3» 28 сакавіка ў 10.00 пазнаёміць гледачоў з традыцыяй спіральнага саламянага пляцення. Пра гэта БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе Белтэлерадыёкампаніі.**

«28 сакавіка сацыякультурны канал медыяхолдынга прадставіць гледачам 50-ы выпуск праграмы «Жывая культура». У гэты раз здымачная група падарожнічала па гарадах Віцебскай вобласці, каб зафіксаваць адзін з элементаў спісу нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі — традыцыю спіральнага саламянага пляцення, захаваную ў Гарадоцкім, Браслаўскім і Верхнядзвінскім раёнах, а таксама ў самім абласным цэнтры», - распавялі ў прэс-службе.

Тэхніка спіральнага пляцення лічыцца адной з самых старажытных і мае як бытавое, так і дэкаратыўнае прызначэнне. Майстры, дзякуючы якім гэты від народнага мастацтва захаваўся да нашых дзён, і зараз, як некалі нашы продкі, вырабляюць з саломы самыя розныя прадметы — ад кошыкаў і куфраў да капелюшоў і абутку. Гледачы пазнаёмяцца з рамеснікамі клуба пры Браслаўскім музеі традыцыйнай культуры, зазірнуць у Гарадоцкі Дом рамёстваў і фальклору і да віцебскіх майстрам культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кальцо горада Віцебска «Дзвіна». Дзякуючы іх дзейнасці самабытная тэхніка спіральнага пляцення застаецца запатрабаванай, а ў студзені атрымала статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці Беларусі.

З 1 чэрвеня 2018 года па 1 сакавіка гэтага года ў эфір выйшлі 49 праграм з цыклу «Жывая культура». Кожны выпуск — асобны элемент спісу нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей, уключанага ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі, які сёння складаецца з 92 элементаў. У канцэпцыі праекта — ахапіць усе элементы спісу, нават тыя, што будуць дапаўняцца з цягам часу. Ствараючы жывую відэаэнцыклапедыю, творчая група «Беларусь 3» ужо праехала 35 тыс. км, наведала больш за 200 вёсак і гарадоў, запісала каля 250 інтэрв'ю з носьбітамі і захавальнікамі народных традыцый.

**Пераклад на родную мову рэдакцыі сайта haradok.info**

***Ад рэдакцыі:*** *Юбілейны, 50-ты выпуск праграмы «Жывая культура» гледачы тэлеканала «Беларусь 3» ўбачылі ў эфіры 28 сакавіка ў 10:00. Зараз глядзіце на сайце тэлеканалу.*

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАША ЖЫЦЦЕ

*(пачатак на стар. 1)*
остаются, уверяет хозяйка:

— Если огородные хлопоты для меня привычка, даже рутина, то цветоводство — одно из любимых хобби. С весны и по глубокую осень возле нашего дома целое ароматное море из клематисов и нарциссов, пионов и лилий. В этом году подснежники стали тянуться к солнцу в феврале. А дольше всего, вплоть до заморозков, на клумбе задерживаются любимые Снегуоле морозники.

Сейчас в семье живут старший сын Андрей, невестка Вероника, внуки Никита и Агата, так что скучать не приходится. А с наступлением весенних хлопот и подавно. Не забывают про родителей и младший сын Дмитрий с женой Светланой, приезжают из Витебска. Чего еще хотеть?

**Первый «цмок» на деревне**

Дом Морозовых в прошлом году получил звание «образцовый». Аккуратный, ухоженный, он и вправду выделяется на сельской улице, радует глаз. Стоит попасть во двор, понимаешь, что хозяева — люди, без сомнения, творческие. В подтверждение тому — симпатичные скульптурные композиции, которые сельчанка вылепливает из цемента, словно из податливого пластилина. Удивляет соседей то изящным лебедем, то милыми садовыми гномами, что выглядывают из травы. На зиму весь этот скарб, конечно, убирают. А вот работы из соленого теста можно демонстрировать круглый год. Новое для себя направление Снегуоле освоила недавно и с двойным рвением взялась за поделки. С двухлетним Никиткой у них семейный подряд — она лепит, он разбирает, смеется мастерица:— Не ожидала, что настолько втянусь: яркие панно, подковы в цветах и многое другое — уже собралась целая коллекция.

Сыновья от мамы не отстают. Во дворе есть мастерская, где Андрей и Дмитрий создают фигуры из металла и цемента. Летом сделали необычное чучело, установили флюгер на крыше в виде Бабы-яги, перечисляет Андрей:

— В школе обожал уроки труда, даже участвовал в областной олимпиаде: вырезал кубки из дерева 36 (!) пород, чтобы показать структуру этого материала. Два года назад взялся за сварку и первым делом поставил забор. Сейчас от центра занятости как раз получаю соответствующую специальность, буду электро-газосварщиком. Мечтаю работать с металлом, но уезжать из сельской местности не хочу, так что вахта — лучший выбор.

В долгоиграющих планах Андрея — металлический дракон, чтобы крыльями укрывал калитку. Первый «цмок» на деревне станет не единственной изюминкой у дома Морозовых. Качели, карусели, фигурки животных и сказочных персонажей, даже бумажные балерины, «танцующие» на ветвях в саду, — фантазия хозяев беспредельна. Украшением участка стали и утюги на углях, рифленые рубели для раскатки ткани, каменные жернова, старинные колеса от телеги. Последним сто лет — настоящий раритет!

**Анна Наумова**
**www.sb.by**

КРЫМІНАЛ

# ЗАБІЎ ЖОНКУ

**У Гарадоцкім раёне хлопец забіваў жонку і прымушаў глядзець на гэта яе сястру.**

Жыхар Гарадоцкага раёна забіваў жонку і прымушаў яе сястру глядзець на жорсткую сцэну расправы. Мужчына атрымаў 17 гадоў калоніі, паведамляе пракуратура.

Трагедыя адбылася ў ноч з 1 на 2 верасня мінулага года. 23-гадовы жыхар Гарадоцкага раёна і яго жонка разам выпівалі. Мужчына прыраўнаваў жонку да знаёмага. Стаў яе жорстка збіваць. На крык пра дапамогу прыбегла родная сястра жанчыны.

Сястра хацела выклікаць міліцыю. Аднак мужчына сілком утрымліваў яе ў доме і прымушаў глядзець на тое, як ён збіваў жонку. У нейкі момант сястры атрымалася выбегчы на вуліцу і папрасіць дапамогі ў суседзяў.

Мужчына нанёс жанчыне не менш за 38 траўмаў, у тым ліку чэрапна-мазгавую. Праз тыдзень яна, не прыходзячы ў прытомнасць, памерла ў бальніцы.

Вяскоўца абвінавацілі ў забойстве з асаблівай жорсткасцю, а таксама гвалце і пагрозе насіллем у дачыненні да іншай асобы, які выконваў грамадскі абавязак па спыненні злачынства.

Суд прысудзіў яго да 17 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Прысуд можа быць абскарджаны.

**Л. Антонаў**

# НАЖОМ У СПІНУ

**Жыхар Гарадка, будучы ў гасцях, ўдарыў шумілінца нажом у спіну.**

Паміж жыхаром Гарадка, які прыехаў да сужыцелькі ў Шуміліна, і тутэйшым жыхаром складіся непрыязныя адносіны, што перайшлі ў панажоўшчыну.

Раней неаднаразова судзімы жыхар Гарадка накінуўся на шумілінца з нажом. Нанёс у спіну пацярпеламу раны, якія адносяцца да лёгкіх цялесных пашкоджанняў. Гэтым і абмежавалася разборка «дон-жуанаў».

Узбуджана крымінальная справа. Максімальнае пакаранне, што пагражае жыхару Гарадка, — папраўчыя работы або арышт да аднаго года.

**Людміла Зуйкова**
**«Герой працы»**

COVID-19

# АПЫТАННЕ ПРА COVID-19

**Сітуацыя з каранавірусам не паўплывала на звычкі і лад жыцця ў большасці чытачоў нашай групы ў ВК.**

У сярэдзіне сакавіка ў нашай групе ў ВК “Haradok.info — навостной паблик Городка“ было праведзена ананімнае апытанне чытачоў па пытанню “Ці змянілі вы лад жыцця і звычкі ў сувязі з каранавірусам?”

Гэта глабальная праблема, якая ахапіла ўвесь свет, своеасабліва ўспрымаецца на Беларусі. Такое ўспрыняцце праблемы звязана з пазіцыяй Аляксандра Лукашэнкі, які лічыць, што у нас эпідэміі COVID-19 няма. І таму на наша пытанне мы ў большасці чытачоў — 59,04% атрымалі адказ “НЕ”. Гэта сведчыць пра тое, што як жылі да абвяшчэння пандэміі COVID-19, так і жывём.

Толькі 25,3% чытачоў заявіла пра тое, што змянілі лад жыцця і звычкі. А гэта значыць надалі значэння, той небяспецы, якая прыйшла ў чалавечае жыццё ва ўсіх кутках планеты.

Яшчэ 12,05% задаецца пытаннем: “А яго трэба меняць?”. І сумняецца ў неабходнасці меняць, “Ня ведае” – 3,61%.

Усяго ў апытанні прыняла ўдзел 83 чалавека з 1200 праглядзеўшых гэтае пытанне. І колькі чалавек выбрала які варыянт адказу магчыма лёгка вылічыць.

Варта адзначыць, што пазіцыя Мінздрава Беларусі ў многім “карэкціруецца” ведамі А.Лукашэнкі, якія робяць Беларусь “белай варонай” у навакольным свеце.

**Л. Антонаў**

БЯСПЕКА

# НЕДАКУРАК ЗНІШЧЫЎ ДОМ

**Вясна сёлета прыйшла рана, у сувязі з чым на месяц раней у Беларусі пачаліся сезонныя палы сухой травы. Паводле статыстыкі у 2019 г. у экасістэмах адбыўся 2691 пажар на агульнай плошчы 11 333 га. Ратавальнікі ліквідавалі 520 лясных пажараў, 243 ўзгаранняў тарфянікаў. Зафіксавана 1 928 выпадкаў гарэння травы і кустоў.**

Злы жарт з людзьмі гуляе іх жа халатнасць і грэбаванне элементарнымі правіламі бяспекі ўжо не раз, што даказваюць шматлікія прыклады з аператыўных зводак. Праблема спальвання бытавога смецця з'яўляецца актуальнай з году ў год і займае асобнае месца сярод прычын ўзнікнення выпальванняў. Аднак, імкненне навесці парадак часам прыводзіць да самым цяжкім наступствы.

Варта адзначыць, травяныя палы хутка распаўсюджваюцца, асабліва ў легкадумныя дні. Агонь раздзімаецца імгненна, яго вельмі складана ўтрымаць і спыніць. Палы сухой травы могуць прывесці да ўзгарання дачных пабудоў, драўляных дамоў. Леташняя трава хутка высыхае на моцным вясновым сонцы і лёгка загараецца ад любой кінутай запалкі або цыгарэты:

Адзін нежылы дом быў знішчаны цалкам, дзве пабудовы былі пашкоджаныя ў выніку пажару травы ў адной з вёсак Гарадоцкага раёна Мяжанскага сельскага Савета ў сакавіку гэтага года. Моцны вецер імгненна распаўсюдзіў агонь па сухасці і полымя ахапіла нежылы дом і гаспадарчыя пабудовы. 4 пажарныя разлікі і сельскагаспадарчая тэхніка, мясцовыя жыхары, удзельнічалі ў тушэнні пажару. На ліквідацыю ўзгарання спатрэбілася некалькі гадзін. Незатушаны недакурак, кінуты ў сухую траву на падворку аднаго з вяскоўцаў, і прывёў да гэтак маштабнага ўзгарання.

У Беларусі выпальванне сухой расліннасці забаронена законам. Згодна з артыкулам 15.57 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, а таксама ржышча і пажніўных рэштках на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў вінаватыя асобы прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь. Артыкул 15.58 - за распальванне вогнішчаў у забароненых месцах прадугледжана папярэджанне або накладанне штрафу да 12 базавых велічынь. У выпадку прычынення шкоды ў асабліва буйным памеры надыходзіць крымінальная адказнасць (арт. 270, 276 Крымінальнага кодэксу РБ).

**Т. Гаражанка**

АДУКАЦЫЯ

# ПЕРШАЕ МЕСЦА Ў «АГРАМАЙСТЭРСТВЕ»

**Каманда Гарадоцкага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнагав каледжа падзяліла першае месца на рэспубліканскім конкурсу «Аграмайстэрства».**

З 11 па 13 сакавіка ў УА «Беларускі дзяржаўны аграрна-тэхнічны універсітэт» праходзіў рэспубліканскі конкурс «Аграмайстэрства» сярод навучэнцаў устаноў адукацыі, якія рэалізуюць адукацыйныя праграмы ССА, у напрамку адукацыі «Сельская гаспадарка».

Заяўкі на ўдзел па спецыяльнасці «Тэхнічнае забеспячэнне працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці (вытворчая дзейнасць)» падалі 13 устаноў адукацыі.

Конкурс праводзіўся з мэтай удасканалення тэарэтычных ведаў і практычных уменняў, пашырэння матывацыі навучэнцаў да атрымання прафесійных ведаў, выяўлення таленавітых, здольных да творчай дзейнасці навучэнцаў устаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

У гэтым конкурсе ўдзельнічала каманда УА «ГГАТК» у складзе навучэнцаў чацвёртага курса: Руслана Аліева, Яўгена Цыганова і Яўгена Цітова.

Падрыхтоўкай рабят да рэспубліканскага конкурсу па профільных вучэбных дысцыплінах займаліся выкладчыкі: М.В. Віхаценка, С.Н. Кузьмянок, А.В. Філіпаў, К.Л. Шабека і А.А. Парфёнаў.

Пасля двух конкурсных дзён на базе БДАТУ былі падведзены вынікі. З 13 устаноў адукацыі па адпаведнай спецыяльнасці «Тэхнічнае забеспячэнне працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці (вытворчая дзейнасць)» у камандным заліку: І месца — у УА «Гарадоцкі дзяржаўны аграрна-тэхнічны каледж» і УА «Пружанскі дзяржаўны аграрна-тэхнічны каледж»; ІІ — у УА «Жыровіцкі дзяржаўны аграрна-тэхнічны каледж»; ІІІ — у УА «Буда-Кашалёўскі дзяржаўны аграрна-тэхнічны каледж» і УА «Мар'інагорскі дзяржаўны ордэна» Знак Пашаны «аграрна-тэхнічны каледж імя. У.Я. Лабанка ».

І месца ў асабістым заліку — у навучэнца Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа Руслана Аліева. Віншуем навучэнцаў і педагогаў з заслужанай перамогай! Так трымаць!

**Алена Краўцова**
**Пераклад на родную мову зроблены рэдакцыяй**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДОМ БЕЗ ГАСПАДАРОЎ

**Днямі мне пашчасціла назіраць пралёт гусей над цэнтрам Мінска. Але ці можна ў гэтай падзеі ўбачыць сімвалічны сэнс? Не ўпэўнены. Уся ўвага сёння прыцягнутая да іншага біялагічнага віду з атрада гусепадобных — лебедзяў, прычым выключна з чорнымі пёрамі.**




Чорны лебедзь з падачы амерыканскага пісьменніка і статыстыка Насіма Талеба даў імя тэорыі, якая разглядае рэдкія падзеі, што складана спрагназаваць, аднак якія спараджаюць значныя наступствы (як правіла, негатыўныя). Чорны лебедзь — гэта сучасны аналаг белага і пухнатага паўночнага звярка з застойных брэжнеўскіх часоў.

Здавалася, гэта ганарлівая птушка, якая добра павесялілася на родных вадаёмах на мяжы 1980–1990-х гадоў мінулага стагоддзя, назаўсёды пакінула ў спакоі Сінявокую. Краіну накрыла стабільнасць. Накрыла нібы тазам — настолькі шчыльна, што адзін выбітны розум, не пазбаўлены ўяўлення, загаварыў пра Беларусь як пра донара еўрапейскай стабільнасці.

Варта прызнаць, што гэтаму розуму на працягу многіх гадоў неаднаразова шанцавала. Ён прыйшоў ва ўладу, калі эканоміка адштурхнулася ад дна, дасягнутага ў выніку калапсу савецкай мадэлі (глядзі табліцу). Натуральна, змену трэнду дзяржаўная прапаганда патлумачыла выбітнай здольнасцю розуму несці сінявокую краіну перад сабой, *«як маленькае дзіця»*. Сам розум наконт такога тлумачэння, натуральна, не пярэчыў.

Крыху эканамічнай статыстыкі. Рэкамендую звярнуць увагу на паказчык 1997 года, калі рэкордныя 111,4% былі атрыманыя насуперак запланаваным 105%. Як правіла, па факце атрымліваецца менш. Напрыклад, у 2013 годзе фактычныя тэмпы прыросту эканомікі адсталі ад запланаваных амаль на парадак: 0,9% замест 8,5%. Якая ж прычына таго, што так істотна былі падкарэктаваныя планы ўрада ў старону́чы бок у 1997 годзе?

Усю адказнасць варта ўскласці на аднаўленчы рост. Ён *«прыходзіць нечакана, як падарунак»* (Ягор Гайдар), але працягваецца нядоўга. Аднаўленчы рост — гэта рост за кошт магутнасцяў, якія вызваліліся падчас дасягнення дна: кадры не разбегліся, станкі не разрададзеныя, камплектуючыя не раскралі, а ўнутраны рынак не паспелі акупаваць замежныя канкурэнты.

Аднак доўга аднаўленчае шчасце працягвацца не здольнае, што і пацвердзіла практыка. Да канца 1990-х гадоў тэмпы эканамічнага росту перайшлі з галопу на рысь. З далейшай транспарціроўкай Сінявокай на выцягнутых руках *«як маленькага дзіцяці»* павінны былі наступіць праблемы. Аднак яны не надышлі. Чорны лебедзь не прыляцеў.

**Рост на фоне дэградацыі**

За дзясятыя гады новага стагоддзя сярэднегадавы індэкс экспарту склаў 116,6%. Няўдалым стаў толькі 2009 год (67,2%). Экспарт тавараў у краіны Еўрасаюза з 2000-га па 2010-ы вырас у 3,6 разу. Ведай нашых! Нервова скугалілі ўбаку тыгры Паўднёва-ўсходняй Азіі…

Такі поспех, як нескладана здагадацца, адзіны палітык (АП) прадставіў у якасці доказу правільнасці курсу. Мы, маўляў, у адрозненне ад нашых суседзяў, не сталі слухаць дактароў з МВФ і не пайшлі на беспадстаўную прыватызацыю. Мы захавалі прамысловыя прадпрыемствы і працоўныя калектывы. Мы, мы, мы...

Чалавеку ўласціва карыстацца добрай рэпутацыяй у самога сябе. АП у гэтым сэнсе не з'яўляецца выключэннем. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што рост ВУП ён паставіў сабе ў заслугу, а дэградацыю савецкай прамысловай спадчыны палічыў за лепшае не заўважаць.

Між тым парадаксальнае, на першы погляд, спалучэнне росту і дэградацыі наглядна пацвярджае афіцыйная статыстыка: з 2000-га па 2010-ы працэнт мінеральных прадуктаў, аснову якіх складалі выробленыя з расійскай нафты бензін, салярка, мазут і змазачныя масла, у беларускім экспарце павялічыўся з 20,2% да 35,5% пры адначасовым скарачэнні долі машын, абсталявання і транспартных сродкаў з 25,2% да 19,7%.

Але калі фізічны аб'ём экспарту мінеральных прадуктаў за названы перыяд вырас у 1,4 разу, то ў вартасным — у 4,8 разу! За гэта варта быць удзячным росту сусветных цэнаў на нафту! Гэтымі «нажніцамі» і тлумачыцца «сытасць» нулявых гадоў для беларускай мадэлі.

Сцвярджаць, што АП да паспеху сваёй мадэлі не меў ніякага дачынення, азначала б зграшыць супраць ісціны. Яго асабісты ўклад у палітыку «нафта ў абмен на пацалункі» быў істотным, калі не вырашальным. Аднак такі абмен, як ніякі іншы фактар, і паспрыяў дэградацыі вытворчасцяў, што дасталіся ў спадчыну ад савецкага «зборачнага цэху».

Высокія цэны на нафту і нафтапрадукты адышлі — і стала відавочным тое, што на працягу дзесяцігоддзя паспяхова хавала дзяржаўная прапаганда: за чвэрць стагоддзя пад кіраўніцтвам АП у Беларусі так і не ўдалося стварыць здольную да самаразвіцця эканамічную мадэль. Без датацыйнага падсілкоўвання з боку Расіі яна не выжыве.

**Менш за працэнт**

Гэтыя простыя высновы ляжаць на паверхні, аднак яны, тым не менш, не аказалі ніякага ўплыву на абраны чвэрць стагоддзя таму эканамічны курс. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова звярнуцца да любога прэс-рэлізу, размешчанага на сайце АП.

9 сакавіка, напрыклад, ён правёў нараду з кіраўніцтвам Савета Міністраў. Сярод разгледжаных дакументаў — *«праекты ўказаў аб дадатковым стымуляванні мясцовых органаў улады, аб прапановах па ўдасканаленні працэдуры банкруцтва і абароне правоў работнікаў, аб дзяржнаглядзе за тэхнічным станам трактароў і іншай тэхнікі, аб дэпазітнай сістэме абарачэння спажывецкай упакоўкі і стымуляванні выкарыстання электрамабіляў»*.

Цікава, пагадзіцеся! На сусветных рынках — паніка, цэны на ўсе віды сыравіны пікіруюць, сярэдні заробак у доларавым эквіваленце ў Беларусі сціскаецца, нібы шчыгрынавая скура, а кіраўнік дзяржавы знаходзіць час разважаць пра дарагую тэхніку, якую ў гаспадарках пасля двух гадоў эксплуатацыі «кідаюць пад плотам як металалом».

Але ж самае цікавае — АП ведае, што *«там, дзе рынак спрацаваў, у прыватніка, яго правяраць не трэба. <...> Не трэба ісці і глядзець, як ён там паставіў тэхніку, як даглядае за ёй: гэта яго асабістая ўласнасць, ён ведае, як з ёй абыходзіцца»*.

Далей ідзе выснова, якую варта напісаць залатымі літарамі: *«Але колькі ў нас такіх гаспадароў? Напэўна, менш за працэнт* (вылучана. — Рэд.). *А астатнія будуць хадзіць з працягнутай рукой і прасіць: дайце грошай, каб набыць трактар, таму што пасеяць няма чым. А гэта ўпіраецца ў харчовую бяспеку нашай дзяржавы і велізарныя аб'ёмы экспарту»*.

Дзяржава, у якой 99 працэнтаў працаўнікоў сельскай гаспадаркі ходзяць з працягнутай рукой — вось такі вынік руху правільным курсам на працягу чвэрці стагоддзя! Тут не пра харчовую бяспеку думаць трэба. Калі так пойдзе і далей, то вяртанне па вясне любога шпака або берасцянкі будзе здольнае справакаваць эфект чорнага лебедзя. На коне незалежнасць і суверэнітэт. Дажыліся!..

* * *

У юнацтве я прачытаў раман нямецкага пісьменніка Генрыха Бёля «Дом без гаспадара». Раман напісаны ад асобы хлопчыка, якому выпала шчасце жыць у пасляваенныя гады ў сям'і без бацькі. Сям'ю не варта блытаць з краінай. Розніца тут хутчэй якасная, чым колькасная, і таму наяўнасць аднаго гаспадара ў краіне азначае адначасова адсутнасць мільёнаў гаспадароў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы ЧАС"**

COVID-19

# НЕУТЕШИТЕЛЬНЫЙ ПРОГНОЗ

**Пандемия COVID-19 может продлиться до двух лет. Длительность пандемии будет зависеть от того, когда начнется применяться вакцина против COVID-19, заявил руководитель ведущего немецкого института по изучению инфекционных заболеваний.**

Директор Федерального института Германии по изучению инфекционных заболеваний и непереносимых болезней (Институт имени Роберта Коха) констатировал быстрый рост количества инфицированных новым коронавирусом SARS-CoV-2 в ФРГ и растущую обеспокоенность клиник и властей по поводу наплыва пациентов, пишет DW.

Как заявил руководитель RKI Лотар Вилер, «мы видим, что даже хорошо оснащенные отделы здравоохранения и университетские клиники испытывают трудности из-за растущего числа заболевших».

Он отметил, что специалисты приняли решение повысить уровень угрозы заражения коронавирусом в Германии с умеренного до высокого. Также руководитель института считает абсолютно адекватными ограничительные меры, которые ввели федеральные власти.

Руководитель RKI также выразил мнение, что пандемия коронавируса может продлиться около двух лет. На вопрос о том, сохранятся ли действующие ограничения все это время, он сказал, что в экстремальных случаях это возможно, текущую ситуацию нужно постоянно анализировать.

Число инфицированных SARS-CoV-2 в Германии достигает шести тысяч (погибло 13 человек). Но реальное число инфицированных выше хотя бы из-за задержки с передачей данных, считает специалист.

В настоящее время за пределами КНР, где началась пандемия, больше случаев заражения коронавирусом, чем в самом Китае (86 тысяч против 81 тысячи): «В настоящее время Европа находится в центре пандемии».

Вилер призвал как можно скорее подготовить немецкие клиники к приему все растущего числа больных: «Мы находимся в начале эпидемии и ожидаем от всех больниц, что они как минимум удвоят мощности своих отделений интенсивной терапии».

Эксперт заметил, что каждый пятый случай заражения коронавирусом протекает в тяжелой форме, а поэтому невозможно спрогнозировать уровень смертности от COVID-19. Вилер также отметил, что пандемии распространяются волнами, но их скорость трудно предсказать.

«Пройдут годы, прежде чем коронавирусом заразится ожидаемое число людей на уровне 60-70%. Длительность пандемии во многом будет зависеть от того, когда начнется применяться вакцина против SARS-CoV-2, а это может случиться уже в будущем году», — резюмировал глава RKI.

Напомним, по информации Минздрава, на данный момент в Беларуси официально подтверждено заражение 36 человек. Трое выздоровевших выписаны домой. Один пациент находится в состоянии средней степени тяжести. Остальные чувствуют себя удовлетворительно.

Накануне Александр Лукашенко заявил, что «мир с ума сошел от коронавируса».

**https://naviny.by**

***От редакции:*** *Читайте на сайте главное о коронавирусе: Симптомы коронавируса — и что делать, если вы заболели; По полочкам. Как уберечься от коронавируса; Коронавирус COVID-19 в Беларуси. Полная хроника событий; Пандемия COVID-19 может продлиться до двух лет; Названы лекарства, которые могут ухудшить состояние здоровья при коронавирусе.*

COVID-19

# БЕРАЖЫЦЕСЯ, БО ЭПІДЭМІІ НЕ БУДЗЕ

**Віктар Марціновіч разважае на budzma.by аб тым, чаму ў нашай краіне не прымаецца ніякіх рашучых захадаў для барацьбы з каранавірусам.**

Калі ўсё гэта толькі пачыналіся, схільныя да параноі аналітыкі выказвалі здагадку, што тое, што адбываецца з каранавірусам у Беларусі, усё ж мае лагічнае тлумачэнне. Што такім чынам нас плаўнёханька падводзяць да сітуацыі, калі надзвычайнае становішча, адмена выбараў ці правядзенне выбараў ва ўмовах стоадсоткавага галасавання дома будзе адзінай опцыяй праз абвешчаны татальны лакдаўн.

Дык вось, песімісты памыліліся. Разгортваецца зусім іншы сцэнар.

Паводле якога эпідэміі не будзе.

Менавіта пра гэта сведчаць апошнія выказванні адказных асобаў.

Калі б яны дапускалі магчымасць увядзення паўнавартаснага каранціну, то не былі б настолькі ўпартымі вось цяпер, на фоне таго, што робіцца ўжо і ў Маскве.

Але ўсё, мяжа далучэння да ўсяго астатняга свету пройдзеная.

Чэмпіянат Беларусі па футболе, які транслявалі і за мяжу ў той час, калі адссоўваюцца тэрміны фіналу еўракубкаў, а «Еўра-2020» перанесены на год, калі ўжо зразумела, што ў Італіі трыгерам быў матч Лігі чэмпіёнаў паміж «Атлантай» і «Валенсіяй», — гэта пазіцыя.

Ну не вераць людзі ў каранавірус.

І калі яны не вераць, дык як можна прызнаваць, што вірус ёсць?

Таму яго не будзе. Нават калі хворых на пнеўманію зробіцца вельмі шмат. Гэта ж усё пнеўманія, чорт яе бяры. Хто сказаў «каранавірус»? Няма ў нас такога. Менш за сотню выпадкаў, а вы паглядзіце, колькі выздаравела!

Пасля таго, што ўжо сказана наверсе, мы маем усе шансы быць самай паспяховай у змаганні з каранавірусам краінай на свеце. З пашытай на «Славянцы» тканіннай маскай па рубель семдзесят пяць у якасці сімвала. З нулявой смяротнасцю.

Бо разумееце, гэта ж тая самая сітуацыя, што і з выбарамі. Лічбы могуць быць любымі.

Дактары лёгка могуць быць пастаўленыя ў тыя ж умовы, у якіх сістэматычна аказваюцца настаўнікі падчас электаральных кампаній. І ці не ўсё роўна чалавеку, ад чаго ён не можа дыхаць? Ці прынцыпова родным, што будзе напісана ў пасведчаннях? І калі ўсё ж прынцыпова, дзе гэтая прынцыповасць канчаецца? І наколькі моцна трэба падціснуць, каб яе не засталося наогул?

Калі на стале рэпутацыя краіны і вернасць абранага шляху, пагадзіцеся, мусіць нам усім зрабіцца не да казурак, не бачных нават у моцны мікраскоп.

Што вы кажаце? Міжнародныя арганізацыі? Дык яны тут прадстаўленыя людзьмі. Якім таксама хочацца быць на свабодзе. І потым, дзе яна, тая статыстыка? Хто яе мае? Хто вырашае, што казаць, а што — не?

Каранавірус — як радыяцыя ў 1986-м. Яго ж не бачна. Па вуліцах не бегае, не рохкае і не мыкае. Ці ёсць ён, ці яго няма — пытанне веры. У нас вырашылі не верыць.

Аўтарытарызм мацнейшы за хваробу.

Так, дарэчы, думалі ў Кітаі, дзе таксама моцная і квітнеючая сістэма. Якая таксама спачатку спрабавала не заўважаць.

Там улада нават яшчэ мацнейшая за нашую.

Чаму гэта ў Кітаі вірус усё ж выпнуўся?

Не задумваліся? А? Таварышчы ў пінжаках?

Не давядзецца потым у краіны і ўсіх суседзяў прабачэння прасіць? Не?

Вы думаеце, вы круцейшыя за кітайцаў? Ну то ладна, парадуемся!

Глядзіце, да каранавіруса сістэме прапанавана ставіцца як раней да апазіцыі. Яго няма ні на ТБ, ні ў газетах, як раней там не было Статкевіча ці Севярынца. Пра яго гэтаксама малююць нейкія там карыкатуркі спецыяльна адшуканыя маладзёны. Каранавірус — гэта анекдот, бы КХП-БНФ. Падыход правільны і за шмат гадоў адпрацаваны.

Да тых, хто выклікаў хуткую праз тое, што цяжка дыхаць, можна адразу накіроўваць міліцыю — прабіваць усе кантакты цягам двух тыдняў. Некалькі рэпартажаў пра тое ў ананімных тэлеграм-каналах, і да дактароў у нас пачнуць звяртацца, калі ўжо цалкам ссінеюць.

Зноўку ж — гэта вы цяпер у Фэйсбуку звягаеце, што, маўляў, суседа «хуткая» забрала. А што калі да ўсіх, хто такое напісаў, высылаць адразу спецназ у хімкамплексе? Ізаляваць на два тыдні — ды адразу не ў шпіталі, а ў адзіночны пакой СІЗА, бо там кантактаў дакладна меней? Тут такая перамога над вірусам будзе, што Кітай захлынецца слязамі.

Эпідэміі не будзе. Вы пра яе не пачуеце.

Дзеці працягнуць хадзіць у школу, студэнтам не адменяць заняткі, людзі працягнуць цягацца на працу на грамадскім транспарце.

Якую праблему я ў гэтым бачу?

У суседняй Расіі, з якой сінхранізаванае мысленне чынавенства, учора канчаткова абранага катэгарычна іншая тактыка. Там пачалі алармаваць.

Пуцін абвясціў тыдзень выходных з захаваннем заробкаў. Пачынаецца відавочны рассінхрон, і тутэйшым спатрэбіцца вельмі шмат характару, каб давесці сваю няверу ў каранавірус да лагічнага фіналу, з элегантнымі лічбамі. Але, паўтаруся, не будзем гэтага выключаць — і не такое бачылі.

То калі ласка, беражыце сябе і сваіх родных. Абмяжуйце выхад з дому без патрэбы.

Паклапаціцеся пра старых. Тое, што «эпідэміі не будзе», — нагода берагчыся на індывідуальным узроўні.

**Віктар Марціновіч**
**budzma.by**

УЛАДА

# СВЕТЛАНА КАЛИНКИНА: ПРЕДАТЕЛЬСТВО

**Что бывает за предательство интересов государства, которое платит тебе зарплату? Что бывает за антигосударственную пропаганду?**
**Отвечаю сразу: очень даже хорошо бывает — ордена, медали, звания, должности, служебный кабинет, личный водитель, хорошая пенсия...**

Зайдите на сайт газеты Парламентского собрания Союза Беларуси и России «Союзное вече», и вы поймете, о чем я. Девиз издания, его лозунг зафиксирован прописными буквами прямо в «шапке»: «Две страны — одно государство». Получается, что именно во имя этого на наши с вами деньги работает данное СМИ. Вот только за подобные лозунги надо не деньги давать, а привлекать к ответственности, ведь это подрыв государственных устоев, призыв к отказу от государственного суверенитета, посягательство на святое для каждой уважающей себя державы.

И не надо валять дурака, рассказывая, что лозунг «Союзного вече» — это просто красивая фраза про белорусско-российскую дружбу. Он не про дружбу. Даже совсем не про нее.

Понятия «страна» и «государство» близки по смыслу, но не абсолютные синонимы. «Страна» происходит от понятия «сторона», то есть направление, край, что очень хорошо видно по белорусскому слову «краіна».

Страной называют территорию с определенными границами, на которой население объединено исторически и культурно. Но страна может иметь государственный суверенитет, а может его и не иметь. Например, в Австро-Венгерскую империю как в государство входили десятки разных стран. Из современного можно вспомнить страну Басков — автономное сообщество на севере Испании. Или, например, Тибет, провозгласивший еще в 1913 году собственную независимость, но сегодня являющийся регионом Китая. А знаете, сколько стран входит в Великобританию? Шотландия, Уэльс, Северная Ирландия и еще более десятка заморских территорий, которые находятся под суверенитетом британской короны. Хорошо им живется под большим крылом или плохо — вопрос отдельный. В данном случае важно то, что понятие «страна» имеет не столько политическое, сколько социально-экономическое и культурно-историческое значение.

Иное дело — государство. Это понятие как раз политическое. И обозначает общность людей, которые не только объединены проживанием на одной земле, но и имеют свои органы власти, свою систему государственного управления, сами принимают решения о своей судьбе. Государство всегда суверенно и самостоятельно, не находится ни под чьим протекторатом и живет по своим законам.

А теперь, зная теорию, вернемся к слогану «Две страны — одно государство». Получается, что то же «Союзное вече» нас призывает отказаться от белорусской государственности и стать «страной». Стать стороной, окрайком большой Российской империи!!!

Выходит, призывают стереть Беларусь с политической карты мира и стать всего лишь самобытным регионом — своеобособленным, чистеньким и ухоженным, — но без собственной государственности.

В таком случае те, кто исповедует такой призыв, предатели. Просто предатели интересов белорусского государства.

Конечно, и Кочанова, и Андрейченко как руководители белорусского парламента, и Жук как руководитель холдинга «СБ. Беларусь сегодня», издающего «Союзное вече», и десятки других высокопоставленных лиц, кто имел отношение к учреждению этого издания, будут возмущаться, отрицать и возражать. Мол, не мы, а Александр Григорьевич Лукашенко ставил подпись под Договором о учреждению Союзного государства, в развитие которого и появились всякие подобные СМИ с их лозунгами.

Да, Лукашенко открыл дорогу, подписав с Борисом Ельциным тот злополучный договор. Но все-таки в тексте союзного договора нет даже намека на то, что Республика Беларусь перестанет быть государством и станет страной, к чему призывает «Союзное вече». Более того, именно как государство-участник Республика Беларусь может провести референдум о выходе из этого договора, о чем прямо сказано в подписанном документе. И я, например, считаю, что Кочановой, Андрейченко, Жуку и иным государственным деятелям, которые действительно работают не за себя, а за Беларусь, следовало бы готовить Александра Лукашенко к принятию именно такого решения. Но это уже отдельная большая тема. А для начала пусть объяснятся по поводу лозунга национального предательства, который с их молчаливого согласия или даже одобрения исполнительные журналисты понесли в народ.

*«Статья в рубрике „Особое мнение“ является видом материала, который отражает исключительно точку зрения автора. Точка зрения редакции „Белорусского партизана“ может не совпадать с точкой зрения автора.*

*Редакция не несет ответственности за достоверность и толкование приведенной информации и выполняет исключительно роль носителя. Вы можете прислать свою статью на почту belpartisan@gmail.com для размещения в рубрике „Особое мнение“, которую мы опубликуем».*

**Светлана Калинкина**
**https://belaruspartisan.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.03.2020 у 18.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.